# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

## № 8



ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА
двухтыднёвая часопіс для меншых дзяцей
1933 г. № 8
ГОД выданьня 5
ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ

# ВЕСНАВАЯ ПЕСЬНЯ



Зелянее ўсё кругом,
Матылькі лятаюць;
Птушкі гнёзда сабе ўюць,
Весела сьпяваюць.

У гародзе—дзе ні глянь—
Аж кіпіць работа:
Дзеціградкі робяць тут,
Працуюць з ахвотай.

Трэба ў пору пасадзіць,
Палоць не забыцца.
А як будзе сухавей—
Паліваць вадзіцай.

На вокладцы—Дняпроўская электрастанцыя імя У. І. ЛЕНІНА.






# ВЯЛІКАЕ СЬВЯТА

Прыбеглі ў школу дзеці. Вясёлыя, радасныя. Шчабечуць, нібы чарада вараб'ёў. Спрачаюцца адны з другімі, але спрачаюцца падобраму. Кожны нешта расказвае настаўніцы. З вуліцы даносіцца такі ж самы вясёлы гоман.

Радасьцю нязвычайнаю жыве сёньня школа.

Па-сьвяточнаму прыбраная стаіць вартаўніца школы, бабулька Аўдоля.

Вялікае сьвята сёньня ва ўсіх працоўных, і кожны хоча прыняць удзел у сьвяткаваньні.

Вось Сьцёпка, унук Аўдолі, стаіць каля вакна і думае, ці дазволяць яму бабулька і настаўніца пайсьці разам са ўсімі.



Сьцёпка яшчэ малы, яму толькі сёмы год пайшоў і да таго-ж ён накульгвае — баліць нага. Але Сьцёпку таксама хочацца ісьці разам з вучнямі ў радох. І ён можа ў соты раз сёньня гаворыць:

— Бабулька, бабулька пайду і я.

— Куды?

— Разам з усімі. З чырвоным сьцягам.

— Ты-ж ня сыдзешся з імі. Табе ж баліць нага. Мы будзем з табою дома, а ўвечары на спэктакль у школу пойдзем.

Не такога адказу чакаў Сьцёпка. Перабівае ён бабульчыну гаворку:

— Паглядзеце, бабулька, усе вучні вунь па двох становяцца.

Глядзіць бабулька Аўдоля на вясёлых дзяцей, радуецца і яе сэрца вялікаму сьвяту.

— Скарэй ідзеце, а то спозьнімся. Вунь усе пайшлі ўжо. Чуеце песьні,—даносіцца да Сьцёпкі.

Гэта крычаць з пастроеных радоў на тых, што павольна ідуць станавіцца.

Са школы вышла настаўніца з двума вучнямі. Адзін з іх, Грышка Піліпаў, чырвоны сьцяг нясе. А на сьцягу тым залаты надпіс:

*„Няхай жыве працоўная школа“!*

А міхалка Ігнасёў, што вышаў разам з Грышкам і настаўніцаю, плякат трымае. На плякаце чырвоным напісана:

*„Няхай жыве 1-е мая—сьвята працы!“*

Ажывіліся пастроеныя рады. Павярнуліся вучні, на сьцяг, на плякат глядзяць. А на грудзёх іх чырвоныя банцікі зьзяюць агнём радасьці.

— Бабулька, а я ўсё-такі пайду, — рашуча заяўляе Сьцёпка і выбягае на двор, адзяючыся на ходу. Ён становіцца разам з Цімохавым Алесем у рад і пазглядае, ці бяжыць па яго бабулька.

Паглядзела настаўніца на Сьцёпку, пахваліла яго, пералічыла рады, паправіла тых, хто дрэнна стаяў, і сказала пярэднім ісьці. Кранулася за пярэднімі ўся калёна проста да трыбуны.

З усіх канцоў вёскі зьбіраюцца сюды, да трыбуны старыя, моладзь, дзеці. Кожнаму хочацца прыняць удзел у сьвяткаваньні вялікага сьвята.

І усюды красуюцца сьцягі і плякаты:

**„НЯХАЙ ЖЫВЕ 1-е МАЯ!“**





# ПЕТРЫКАЎ ТЫСЯЧЫ

Там, па-за межамі
Нашай краіны,
Фашысты пануюць
І ўлада у іх,
А людзі працоўныя
Гнуць свае сьпіны
Пад бізунамі гарадавых.

У горадзе блізкім,
Дзе чорнае неба
Шмат бяспрытульных,
Сьцюжа, туман...
. . . . . . . . .

Голадна Петрыку,
Хочацца хлеба,
Але ў Петрыка
Хлеба няма.

Холад. Дажджы.
Па ваколіцах гразкіх
Мокрая ходзіць
І злая зіма.
Холадна Петрыку.
Хочацца ласкі.
Але у Петрыка
Родных няма.



Бацька памёр
Пад шынком
З перапою.
Матку паны
Пасадзілі ў турму.
Вось і жыві,
Калі шчасьце такое!
Крыўдна,
А скажаш каму?

Вось адшумеў сакавік
І мінае,
Травамі
Месяц наступны прарос.
Потым вясна
Усьміхнулася маем,
Сьвежымі кветкамі,
Пырскамі рос.



Выпала хлопцу
Сустрэць піянэраў...
Разгаварыліся...
Ў той-жа дзень
Петрык, з атрадам
Выходзячы ўперад,
Майскі значок
Прышпіліў да грудзей.

Першае мая!
Спынена праца!
Радасьць як сонца
Ў грудзёх вырастае
Тысячы Петрыкаў

На дэманстрацыі
Разам з рабочымі
Сьвята вітаюць.
Гоман на вуліцах,
Сьцягі. Плякаты:
„Леніну слава!“
„Нех жые савет!“
„Каты!
Чакайце крывавай
расплаты!..
— Петрык убачыў
Нябачаны сьвет...



У горадзе блізкім
Трубы запелі.
Шырака ў Петры
Расчынены вочы.



Бліскалі шаблі,
Стрэлы грымелі...
Гнала паліцыя
З вуліц рабочых...

У горадзе блізкім
Задушана праца,
Але падымецца бура
Адразу —
І тысячы Петрыкаў
Выйдуць змагацца
На барыкады
З дарослымі разам.

Верш М. БАГУН
Малюнкі ДАВІДОВІЧА

# ЧЫРВОНЫ КЛЕКАТУН

*АПАВЯДАНЬНЕ*

Тое, што здарылася ў дзень Першага мая, наладзілі Міцько, Аіля, і Сашко. Вы ведаеце хто яны?

Гэта тры дзяўчынкі і адзін хлопчык. Ім па 10—11 гадоў і жывуць яны ў аднэй маленькай вёсцы Батакі, у Баўгарыі.

Лісток на календары паказваў 30-га красавіка. Заўтра пачынаўся новы месяц—май. Вечарам царкоўны звон зьбіраў сялян на сход.

— Каб заўтра ў вас нічога ня было. Чулі? Каб ніякіх сходаў, ніякіх сьцягоў,—казаў поп.

А каля царквы вусаты паліцэйскі размахваў рукамі і, прыплюшчыўшы правае вока, крычаў:

— Калі ў каго будзе заўтра на хаце сьцяг, арыштую, вышлю. Чулі? Ну, вось. Разыдзецеся!

Тое аб чым загадаў паліцэйскі, чулі ня толькі старэйшыя. Міцько, Ваньго і Сашко, седзячы на царкоўнай агарожы, вачэй ня спускалі з паліцэйскага.

— У, жаба... каб ты захлынуўся.

Усе дзеці звалі ў вёсцы паліцэйскага „жабай“. Для дзяцей „жаба“ было самае гадкае слова.

* * *

Як толькі скончыўся царкоўны збор, дзеці кінуліся бегчы ў вёску.

— Што я вам скажу!—прагаварыў Сашко.—Хадзем к вам на двор.

Дзеці згадзіліся. Яны залезьлі ў гумно на сена і пачалі шаптацца.

— А ведаеце,—„жаба“ баіцца. Ён баіцца, каб і ў нас ня было заўтра так, як у Савецкай краіне. Учора я чуў ад брата: здорава будзе там. Народ, кажа, увесь выходзіць. Сьцягоў колькі! І ўсё чырвоныя. Усе сьпяваюць. Ведаеце, ён казаў, што там хлопчыкі і дзяўчаткі носяць чырвоныя гальштукі і называюцца яны — піанэры. І яны павінны памагаць усім, хто працуе. Вось каб мы былі піанэры, прагналі-б мы тады ўсіх „жаб“...

Крл-кр-крл...

На страсе дому, дзе жывуць дзеці, жыў бусел-клекатун. Дзеці злавілі яго на балоце. У яго была падбіта



*Калі ў каго будзе заўтра на хаце сьцяг, арыштую, вышлю! крычаў паліцэйскі.*



*Дзеці пафарбавалі Клекатуна ў чырвоны колер.*

нага. З таго часу Клекатун жыве ў іх. Дзеці самі і імя далі яму—Клекатун.

Цяпер дзеці прыцягнулі яго і праводзяць свой сход разам з буслам на сене. Міцько сьпехам апавядае, што яму прышло ў галаву, калі ён убачыў Клекатуна.

## ЧЫРВОНЫЯ ПЕР'Я.

Ніхто з дзяцей не пайшоў спаць. Лілька зьбегала дахаты, прынесла бацькава вядзерца з фарбаю і пэндзаль. Ванька прынёс старую рубашку.

Калі ўсе сабраліся, сьпешна пачалі работу.

Лілька трымала бусла, Сашко часта мачаў пэндзаль у вядро і паціху мазаў пер'я Клекатуна.

Ногі фарбаваў Міцько, а шыю—Лілька. Пафарбавалі

рубашку і зрабілі з яе гальштук, завязалі буслу на шыю.

— Ну, ты цяпер у нас сапраўдны піанэр.

Дзеці скакалі ад радасьці, а Клекатун барабаніў дзюбай.

— Ну, Клекатунчык, ня злуй.

— Ну, Клекатунчык, выпрастайся.

Ужо днела, калі дзеці цішком ішлі па загуменьні. Яны занесьлі свайго бусла і пасадзілі на страсе паліцэйскага.

## ЖЫВЫ СЬЦЯГ.

Неўзабаве прачнулася ўся вёска. Усе з дзівам глядзелі на дом, дзе жыў паліцэйскі.

— Ён-жа лопне ад злосьці, як убачыць...

— І хто-ж гэта дадумаўся і адважыўся...

Усе забыліся на сваю работу, зьбіраліся групамі і глядзелі на такое дзіва. Паліцэйскі спаў позна. Калі-ж прачнуўся і ўбачыў каля свайго дому многа сялян, выскачыў на двор.

— Як адважыліся ня слухаць мяне? Было сказана— сёньня ніякіх збораў.

А калі зірнуў на страху, куды глядзелі ўсе, пачырванеў, надзьмуўся, закрычаў нема:



*Клекатун заляцеў на страху царквы.*



*Паліцэйскі пачаў цэліцца з рэвальвэра.*

— Зьняць зараз-жа! Усіх заарыштую! Нягоднікі! Я вам пакажу!

Ён схапіў першага, што стаяў бліжэй, за рукаў.

— Ну, што рот разьзявіў?! Лезь зараз-жа зьнімай.

Не пасьпеў той падняцца на страху, як Клекатун замахаў крыльлямі, узьняўся і сеў на коміне, хат праз пяць ад старога месца.

Паліцэйскі пабег пад тую хату. Знайшоў гаспадара.

— Ідзі зараз-жа зьнімі гэтую заразу!

Але, пакуль паліцэйскі з гаспадаром зьбіраліся, бусла ўжо ня было. А народу сабралася, як на важны сход. Усе сьмяюцца. Сёньня забаронена чырвоныя сьцягі вывешваць, а тут жывы чырвоны сьцяг. Дзеці бегалі, радаваліся больш за ўсіх і стараліся зганяць бусла з аднаго месца на другое.

— Клекатунчык, кыш, кыш!

— „Жабе“ шыш, шыш.

А Клекатун заляцеў на страху царквы. Паліцэйскі ўбачыў, што кругом многа народу сабралася, і што бусла ніяк не дастанеш з страхі царквы. Страха старая, ніхто ня згодзіцца лезьці.

Ён пабег дадому. Праз колькі часу вярнуўся, пачаў цэліцца з рэвальвэра.

— Трах...—грукнуў стрэл. Дзеці аж прыселі.

Клекатун замахаў крыльлямі, узьняўся, але зараз-жа апусьціўся ўніз і павіснуў на крыж, зачапіўшыся гальштукам.

Дзеці страцілі Клекатуна, затое Першага мая ў вёсцы Батакі вісеў чырвоны сьцяг.

# ЗАКОНЧЫМ ВУЧОБУ НА „ДОБРА“

Заканчваецца навучальны год. Перад кожным вучнем цяпер адна задача: з посьпехам перайсьці ў наступную групу. Кожны павінен пачаць вучобу ўвосень у новай групе.

А як-жа з тымі вучнямі, што адстаюць па некаторых прадметах?

Такім вучням дапамагаюць іх таварышы і настаўнікі.

Вось у 2—Б групе 3-й ФЗС па задачах адстае Кісялёва Валя. Марыля Бачыла ўзялася дапамагчы Валі добра навучыцца рашаць задачкі. Бачыла вызначае Кісялёвай задачы дахаты, а назаўтра правярае, як яна рашыла. Калі дзе зроблены памылкі, Марылька растлумачвае іх.

Броньку Беламу дапамагае Войцік Міхаська. Белы дрэнна чытае. Яго таварыш па групе Міхаська ўзяўся дапамагчы Броню навучыцца лепей чытаць.

А вось Каган Арон дрэнна піша. Філ мончык дапамагае яму навучыцца правільна пісаць. Бо нельга-ж пераходзіць у 3-ю групу, калі дрэнна чытаеш, пішаш, або рашаеш задачкі.

Такая таварыская дапамога праведзена па ўсёй групе.

Акрамя гэтай дапамогі, настаўніца праводзіць з адстаючымі дадатковыя заняткі.

Акцябраты, вучні! А як вы рыхтуецеся да заканчэньня навучальнага году? Паставім сабе такую задачу: закончыць сёлета вучобу на „добра“ па ўсіх прадметах.

П. А.

# Песьня ліцейшчыкаў

Верш М. Рудэрмана

Іскры шугаюць
Ярчэй ды ярчэй.
Мы ў акулярах
Стаім ля пячэй.
Працы хоць многа —
Ды не бяда.
Нашы заводы
Ніколі ня гаснуць.
Агністаю рэчкай
Ліецца руда,
Нібы чыгуннае масла.
Мы абвясьцілі
Вайну гультаю,
Стальлю накормім
Краіну сваю.
Вугаль, чыгун,
Медзь, серабро —
Вось яно,
Нашага краю дабро!



# ПРЫГОДА З ФАШЫСТАМІ

Па гэтых малюнках складзеце самі апавяданьне





У Германіі ўлада належыць фашыстам—ворагам працоўных. Фашысты бязьлітасна расправаўляюцца з тымі, хто выступае супроць буржуазіі. Турмы Германіі перапоўнены лепшымі рэвалюцыянэрамі.




ДАЛОЎ
ФАШ
НЯХАЙ
ЖЫВЕ
1
МАЯ
7


ДАЛОЎ
ФАШЫСТАЎ!
НЯХАЙ
ЖЫВЕ
1
МАЯ
8


ДАЛОЎ
ФАШЫСТАЎ!
НЯХАЙ
ЖЫВЕ
1
9 М

# ЗАГАДКІ І ЖАРТЫ

1. Стучу, брынчу, іду ўвесь век, але не чалавек.
2. Чоран ды ня воран, рагаты ды ня бык, шэсьць ног мае, ды ўсе без капытоў.
3. Што бяжыць бяз повада?
4. Крыльлямі махае, а ляцець ня можа.

## ЯК ПРЫДЗЕ—СПЫТАЮ

— Дзяўчынка, мама твая дома?

— Не, вышла некуды.

— А хутка вернецца?

— Пачакайце, як прыдзе—спытаю ў яе.




ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактар—А. ЯКІМОВІЧ

Друкарня імя Сталіна Зак. № 1194. 6300 экз. Менгарліт № 1440

